*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2019, № 6(40). Чэрвень

## Слонім у 1946 годзе

*Унікальныя архіўныя здымкі*



*Фота цэнтра горада зроблена з вежы цяперашняга Свята-Троіцкага сабора*

У фондах Беларускага дзяржаўнага архіву кінафотафонадакументаў захоўваюцца здымкі, зробленыя ў нашым горадзе больш за 70 гадоў таму. На іх у асноўным бачым цэнтр Слоніма. Праз год пасля заканчэння вайны нямала будынкаў стаялі ў руінах. Не ўсе яны былі адноўлены. Цяпер толькі на здымках бачым забудову былой Андрэеўскай вуліцы каля галоўнай сінагогі. У савецкія часы разбурылі браму колішняга кляштара бернардынцаў. У 1946-м у руінах быў Спаса-Праабражэнскі сабор (былы касцёл канонікаў латэранскіх). Архіўныя здымкі даюць магчымасць зазірнуць у храм, пабудаваны ў XVII стагоддзі і перабудаваны рускімі ўладамі праз дзвесьце гадоў. Сляды вайны добра бачныя былі і на Замосці — фатограф зрабіў фота, стоячы каля ўваходу ў касцёл святога Андрэя. У той час у капліцы св. Дамініка яшчэ была драўляная скульптура, якая ў далейшым знікне.

●Сяргей Ёрш

*Працяг на ст. 11.*

## Памёр Віктар Валадашчук



26 чэрвеня пасля цяжкай хваробы памёр заснавальнік і галоўны рэдактар недзяржаўнага тыднёвіка “Газета Слонімская” Віктар Валадашчук. Гэта быў таленавіты журналіст. У далёкім 1997-м ён, рэпарцёр газеты “Свабода”, заснаваў у родным горадзе выданне, якое жыве ўжо трэцяе дзесяцігоддзе.

Светлая памяць!

# Помнік Сапегу пачнуць адліваць у бронзе ў жніўні

Скульптары працуюць над помнікам Льву Сапегу, які ўрачыста будзе адкрыты на Тэатральнай плошчы ў Слоніме падчас святкавання Дня беларускага пісьменства і друку. Яго пачнуць адліваць у бронзе ў жніўні, і ў тым жа месяцы ўсталююць на раней вызначаным месцы. *“Пакуль мы працуем з мяккім матэрыялам, працуем над кожнай дэталькай помніка”,* — сказаў racyja.com скульптар Іван Міско.

# Слонімскія каляндарыкі да рэспубліканскага свята




Да Дня беларускага пісьменства і друку ў Слоніме выйшлі тры каляндарыкі, якія анансуюць гэтае рэспубліканскае свята. На іх можна пабачыць славутага беларускага асветніка і першадрукара Францыска Скарыну, герб нашага горада, архітэктурныя помнікі.

●Генадзь Гурскі

ХРОНІКА

# Новая кнігарня




У чэрвені ў Слоніме з’явілася новая кнігарня (трэцяя) — “Санет”. Яе адчыніла прадпрыемства “Белкніга” ў будынку раённага выканкама. Урачыстае адкрыццё кнігарні адбудзецца 1 верасня.

*Фота: slonves.by*

# Кіраўнік вобласці наведаў Слонім і Жыровічы

12 чэрвеня на Слонімшчыну прыязджаў старшыня Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Краўцоў. Як піша “Слонімскі веснік”, ён правёў пасяджэнне аргкамітэта па падрыхтоўцы святкавання Дня беларускага пісьменства і друку. Краўцоў праверыў, што ўжо зроблена і які аб’ём працаў запланаваны на бліжэйшыя месяцы.

У Жыровічах прайшло пасяджэнне, прысвечанае наступнаму святу — 500-м угодкам манастыра, якія прыпадаюць на 2020 год. На рамонтныя і рэстаўрацыйныя працы будуць выдаткаваны значныя сродкі. Чакаецца, што ў Жыровічы прыедзе кіраўнік РПЦ патрыярх Кірыл.



# Пра пажарную вежу ў Слоніме



У чэрвені стала вядома, што на аукцыён выстаўленая былая пажарная вежа ў Слоніме па вуліцы Пушкіна, 6. Гэта маёмасць футбольнага клуба-банкрута "Слонім". Цікава, што ў тэхнічным пашпарце чатырохпавярховага адміністрацыйнага будынка "Вежа" няма ні даты пабудовы, ні даты рэканструкцыі. Па адной з версій, вежу пабудавалі ў 1916 годзе ўжо падчас нямецкай акупацыі.* Але ці так гэта? Паспрабуем разабрацца.

У кнізе "Помнікі Слоніме" ёсць схема фасаду каланчы ў нашым горадзе.** Будынак чамусьці пазначаны на Студэнцкай вуліцы, а не Пушкіна. Валянціна Караткевіч і Анатоль Кулагін пішуць: "Узведзена з цэглы ў пачатку ХХ ст.". З далейшага тэксту вынікае, што каланчу пабудавалі яшчэ да Першай сусветнай вайны. Будынак захаваўся да цяперашняга часу, але ўжо ў перабудаваным выглядзе (яго часта называюць былым "пажарным дэпо"). І гэта не пажарная вежа, якую цяпер прадаюць.






*Каланча, пач. ХХ ст. (вул. Студэнцкая, 7)*

Дзіўна, што Караткевіч і Кулагін, пішучы пра каланчу, нават не згадалі вежу, якая на ёй раней мусіла быць. Бо якая без яе каланча?! Менавіта з пажарнай вежы вялося назіранне за горадам і ў выпадку пажару падаваўся сігнал трывогі.

На вядомым здымку гарадской добраахвотнай пажарнай службы ў Слоніме (яна існавала з 1897-га), зробленым падчас нямецкай акупацыі дзесьці ў 1916-1917 гадах, на заднім плане бачым будынак каланчы і вежу на ім, якая звужалася ўверх. Ён трапіў таксама на некалькі аэрафота, зробленыя немцамі падчас Першай сусветнай вайны. Ніякай асобнай пажарнай вежы, якую мы бачым цяпер, каля каланчы ("пажарнага дэпо") не было. Такім чынам, чатырохпавярховы адміністрацыйны будынак "Вежа" з'явіўся ў пазнейшы час. І нам удалося высветліць, калі гэта адбылося.

У сярэдзіне чэрвеня 1929 года ў Слоніме ў памяшканні па вуліцы Міцкевіча, 10 (цяпер — Першамайская) адбыўся сход групы мясцовых жыхароў-чальцоў пажарнай службы. Ім кіраваў яе старшыня Вігдар Рабіновіч. Прысутныя *"ухвалілі пабудову новай пажарнай вежы".* У газетнай зацемцы адзначалася, што ўжо пачаліся пачатковыя працы.*** Можна меркаваць, што будаўніцтва было скончана восенню 1929-га. У публікацыі, якая з'явілася

*Працяг на ст.4*

# Пра пажарную вежу ў Слоніме

*Працяг, пачатак на ст.3*

ў снежні, гаворка чамусьці ішла пра *“рэстаўрацыю спаленай ў 1921 г. вежы і пажарнага клубу”.* На гэта пайшло 28 тысяч злотых (складкі сяброў, ахвяраванні слонімцаў і г. д.).**** Насамрэч, перабудоўваўся будынак былой каланчы, з якога прыбралі ўжо непатрэбную вежу. Большая частка сумы была выдаткаваная на пабудову з цэглы новай пажарнай вежы, якую ўзвялі побач. Непасрэдна будаўніцтвам і рэстаўрацыяй займаўся чалец пажарнай службы Ш. Сідэльніцкі, якому збіраліся за гэта ўсталяваць памятковую шыльду.

4 студзеня 1930 года ў Народным доме ў Слоніме прайшоў баль-маскарад, арганізаваны пажарнай службай. Пераможцы конкурсаў атрымлівалі прызы, а сярод іх — *“мадэль новаўзведзенай у Слоніме вежы”.******

Такім чынам, вежы па вуліцы Пушкіна сёлета споўніцца 90 гадоў.

●Сяргей Ёрш



*На заднім плане бачым вежу каланчы*



*Злева — каланча. Нямецкае аэрафота*

**Słonimska Straż Ogniowa rozpoczyna energiczną działalność**

SŁONIM (kor. wł.) Jak nas informują, przed kilku dniami odbyło się w lokalu przy ul. Mickiewicza 10 zebranie obywateli m. Słonima — członków straży, pod przewodnictwem p. Wigdora Rabinowicza uchwalili wybudowanie nowej wieży strażackiej.

Roboty wstępne są już rozpoczęte, należy więc żywić nadzieje, że uchwała zostanie zrealizowana.

Ze swej strony musimy nadmienić, że z wydatną pomocą materjalną nad usprawnieniem stanu organizacyjnego i taboru straży winna przyjść miejscowa Dyrekcja Ubezp. Wzajem., która narazie, jak nam wiadomo żywszej akcji w tym kierunku nie przejawiła.

*Публікацыя 1929 года*

**Иванова Ж. В Слониме продают музыкальную башню, с которой ежедневно в полдень звучит полонез Огинского // 18 чэрвеня 2019 г.; https://www.gs.by/2019/06/18/v-slonime-prodayut-bashnyu-s-kotoroj-ezhednevno-v-polden-zvuchit-polonez-oginskogo/*

***Караткевіч В., Кулагін А. Помнікі Слоніма. — Мінск, 1983. С. 78.*

****Słonimska Straż Ogniowa rozpoczyna energiczną działalność // Zycie Nowogródzkie, 1929, № 168, 21 чэрвеня.*

*****Działalność słonimskiej Ochotniczej Straży Ogniowej // Zycie Nowogródzkie, 1929, № 349, 18 снежня.*

******Bal maskowy // Życie Nowogródzkie, 1930, № 6, 8 студзеня.*

# Напалеон Банапарт і Слонім

У тэксце “Гісторыя горада Слоніма”, напісаным у 1967 годзе былой супрацоўніцай краязнаўчага музея Надзеяй Гайдук, ёсць такія нечаканыя радкі: “[У 1812 годзе] *ў Слоніме спыняўся Напалеон* [Банапарт]. *Згарэлі ўсе будынкі, палац Агінскага, але невялікі дом, дзе спыняўся Напалеон, ацалеў і ў* [19]*20-я гады быў прададзены гр*[амадзяні]*ну Гурвічу магістратам горада”.**

Але ж імператара Францыі Напалеона Банапарта (1769 — 1821) ніколі не было ў Слоніме! У 1812-м ён ішоў са сваім войскам на Маскву праз Вільню, праз яе ж пасля вяртаўся. Гэты факт вядомы.




*Згаданы дом — у правым ніжнім куце здымка*


38-39

Х По преданию в данном до-
мике останавливался Напо-
леон по пути в г. Москву в 1812 г.
домик был куплен гр. Слони-
ма Гурвичем, разрушен и
на его месте к началу вой-
ны 39 г. поместился небольшой кра-
сивый каменный домик, теперь пустырь
22/VII-45 г. сотр. музея г. Слоним Гайдук

У фондах Беларускага дзяржаўнага архіву кінафотафонадакументаў аўтар гэтых радкоў знайшоў паштоўку, выдадзеную падчас Першай сусветнай вайны. На здымку, зробленым фатографам Барысам Вайнштэйнам з пажарнай каланчы, бачым частку Апанасаўскай вуліцы (цяпер — Пушкіна). На адваротным баку ёсць наступны рукапісны тэкст:

*“Паводле падання ў дадзеным доміку спыняўся Напале*[о]*н на шляху ў г. Маскву ў 1812 г. Домік быў куплены гр*[амадзянінам] *Слоніма Гурвічам, разбураны і на яго месцы да моманту вайны* [19]*39 г. змяшчаўся невялікі прыгожы каменны домік, цяпер пустка. 22/VII.45 г. супр*[ацоўніца] *Музея г. Слонім Гайдук”.***

Аўтарка тэксту паставіла крыжык каля будынка на фота, каб не было сумнення, пра які дом ідзе гаворка. Зусім магчыма, што яму сапраўды было больш за сто гадоў. Падобны па памерах будынак існаваў у тым месцы ў канцы XVIII стагоддзя (ён ёсць на плане горада 1796 года). Але ж хто спыняўся ў ім падчас вайны ў 1812-м? Каго слонімцы палічылі “Напалеонам”? У горадзе нейкі час жылі генералы Шварцэнберг і Рэнье. На поўнач ад Слоніма ў бок Навагрудка летам 1812 года прайшлі два карпусы Жэрома Банапарта, малодшага брата імператара.*** Але няма звестак, што ён пабываў у нашым горадзе. Дык можа наведванне свайго роднага горада генералам французскай імператарскай арміі Янам Канопкам пакінула скажонае “паданне”?****

●Сяргей Ёрш

**Рукапіс захоўваецца ў Народным музеі СШ № 4 імя А. Жукоўскага г. Слоніма: Гайдук Н. История города Слонима. С. 7. Вядомыя і іншыя варыянты гэтага тэксту. Высвятляецца, што ён быў напісаны Н. Гайдук у 1944-1945 гадах разам з Язэпам Стаброўскім і па яго матэрыялах. Рукапіс, на які спасылаемся мы, мае адрозненні, дапоўнены ўспамінамі аўтаркі.*

***БДАКФФД, 39-038а.*

****Клаузевиц. 1812 год. — Москва, 1937. С. 166, 168.*

*****Пра яго знаходжанне ў Слоніме гл. наступную публікацыю: Крук А. Вяртанне генерала Яна Канопкі // Слонімскі край, 2018, № 5(27). Травень. С. 6-11.*

ПОШУКІ І ЗНАХОДКІ

# Шляхамі Ордаў

*Заканчэнне.*
*Пачатак у №№ 2-5, 2019 г.*

## Дзяўчына з трыма імёнамі

6 жніўня 1860 года ў Пятра Апалінар'евіча Орды нарадзілася ўнучка, дзяўчынка з трыма імёнамі — Леанціна Каміла Браніслава Орда. Дачка Пятра Апалінар'евіча Орды, Леанціна Орда, выйшла замуж за Эдманда Орду. Дзед Эдманда, Павел Орда, быў родным братам Апалінарыя, бацькі Пятра. Шчаслівыя гады дзяцінства Леанціна Каміла Браніслава правяла ў бацькоўскім маёнтку ў Ракаве (сяло ў Камень-Кашырскім раёне Валынскай вобласці ва Украіне). У сям'і Леанціны і Эдманда Ордаў нарадзіліся дзеці: Марыя, Эвеліна, Хелена, Павел Дыянісій, Леанціна Каміла Браніслава. Бацькі выхоўвалі дзяцей у старашляхецкіх традыцыях, вучылі паважаць звычаі свайго краю, распавядалі дзецям пра гісторыю старажытнай Літвы.

Захаваўся запіс у метрычнай кнізе Камень-Кашырскага царкоўна-парафіяльнага касцёла пра тое, што *"1863 года жніўня другога дня ў Каменна-Кашырскім рымска-каталіцкім парафіяльным касцёле быў дапоўнены абрад хрышчэння над дзяўчынкаю трох імёнаў Леанцінай Камілай Браніславай канонікам Яўхімам Альшэўскім, настаяцелем касцёла. Бацькамі ахрышчонай з'яўляюцца дваране Эдманд і Леанціна, народжаныя Орды, законныя муж і жонка, дачка нарадзілася 1860 года, жніўня шостага дня ў сяле Кашырскім Лесе той жа парафіі. Хроснымі пры святым абрадзе хросту былі дваранін Антон Орда з ўдавою павятовага падкаморыя Канстанцыяй Ордаю".*



*Леанціна Каміла Браніслава Орда, жонка Вітольда Орды. Гэты і наступныя фотаздымкі з сямейнага альбому Х'юберта і Марыі Клер Дэнармандзі*

Калі дзяўчынцы споўнілася 10 год, памёр яе дзядуля, Пётр Апалінар'евіч Орда. Але сям'я не забывала родныя Дзеравянчыцы і сваякоў: другая ўнучка Пятра, Марыя Орда, выйшла замуж за сына Філарэнція Мікульскага, Валенсія, і ўвесь час жыла ў маёнтку Старыя Жыровічы. Сёння ў сям'і Дэнармандзі захоўваюцца лісты на французскай мове, якія пісала Марыя з Жыровічаў сваёй сястры Леанціне Каміле Браніславе ў Францыю. Прафесар Ян Х'юберт Стэцкі дапамог даведацца сям'і Дэнармандзі пра дзяцей Марыі Орды (Мікульскай).

16 ліпеня 1878 года Вітольд Орда, сын нашага знакамітага мастака, ажаніўся з Леанцінай Ордай, унучкай Пятра

Апалінар'евіча Орды. Пра Леанціну амаль што нічога невядома: займалася асветніцкай дзейнасцю, Напалеон Орда прысвяціў сваёй нявестцы адзін са сваіх музычных твораў "Паланэз № 6". У перадсмяротным завяшчанні Напалеон Орда згадаў Леанціну Орду: *"Адну тысячу рублёў завяшчаю сваёй нявестцы Леанціне, жонцы майго сына Вітольда. Я ёй таксама завяшчаю срэбраны падсвечнік і два срэбных таршэра, якія мне былі перададзены маці. Прашу іх захоўваць як сямейную рэліквію. Я даю ў спадчыну ўсе польскія кнігі маім унукам, вельмі верачы, што яны будуць добра ведаць бацькоўскую мову".*

Напалеон Орда памёр 6 красавіка 1883 года і, паводле завяшчання, яго пахавалі ў Янаве (горад Іванава Брэсцкай вобласці) у фамільным склепе. У 1879 годзе ў сям'і Вітольда і Леанціны Камілы Браніславы Ордаў нарадзілася дачка Леанціна Ірэн Зоэ (Лілька), а ў 1883 годзе — сын Эдуард. Шчасце маладой сям'і Леанціны і Вітольда Ордаў было нядоўгім: сын Эдуард памёр у трохгадовым узросце, а разам з ім у адзін год, 15 траўня 1886 года, ва ўзросце 25 гадоў раптоўна памерла Леанціна, унучка Пятра Орды. Яны пахаваны ў Францыі.



*Эдманд Орда, муж Леанціны, дачкі Пятра Орды*

Сёння генеалагічнае дрэва Напалеона Орды дало густыя адгалінаванні ўжо ў трэцім калене. Лілька, праўнучка Пятра Орды і ўнучка Напалеона Орды, нарадзіла шасцярых дзяцей. У дачкі Лількі Анрыеты Дэнармандзі таксама шэсць дзяцей, а сярод іх — Х'юберт Дэнармандзі. Сёння ў праўнукаў Леанціны Орды ў Францыі ў сям'і Х'юберта Дэнармандзі захоўваюцца дакументы, якія яны мне даслалі: копія радаводу Ордаў, копіі фотаздымкаў Адама Пятровіча Орды, Вітольда Орды, Леанціны Камілы Браніславы Орды, Эдманда Орды, копіі пасведчанняў аб смерці Леанціны Камілы Браніславы Орды, Эдманда Орды, Марыі Орды і іншыя.

## Хто хоць жменяй зямлю носіць, той зможа насыпаць гару

Сёння для памяці нашым пакаленням ад Ордаў засталася капліца, гаспадарчы дом для наёмных рабочых канца XIX — пачатку XX стагоддзяў, будынак спіртзаводу і сажалкі, якія калісьці складалі адзіную сістэму. У 1920-я — 1930-я гады ў каплічцы праводзіліся набажэнствы. У гады Другой сусветнай вайны была разбурана сядзіба Ордаў, пацярпела і капліца, але ў цяперашні час храм адноўлены, дзякуючы намаганням ксяндза айца Вітольда Жэльветра. 7 верасня 2007 года на свята Нараджэння Маці Божай у адноўленай капліцы прайшла служба. З 2008 года яе даглядае Вікторыя Віктараўна Ашурок, цудоўная жанчына, ад размовы з якой становіцца спакойна і радасна на душы.

У 2007 годзе адзначалася 200-годдзе з дня нараджэння Напалеона Орды. Падзея была ўключана ў каляндар памятных дат ЮНЕСКА, што стала сведчаннем прызнання ўнёску Напалеона Орды ў сусветную культуру. У 2007 годзе родныя

# Шляхамі Ордаў

*Працяг, пачатак на ст. 6-7*

Варацэвічы ўпершыню наведалі французскія нашчадкі славутага роду.

Творчым і жыццёвым крэдам Напалеона Орды былі словы: *"Хто хоць жменяй зямлю носіць, той зможа насыпаць гару"*. Я спадзяюся, што разам мы захаваем для наступных пакаленняў непаўторную і багатую гісторыю родных мясцін. Так думаю не толькі я. Упэўнена, што слонімцы вельмі любяць свой край, і разам мы пастараемся зрабіць яго лепш. Упэўнена, што мы адновім і вёскі, бо гэта памяць нашага сэрца, гэта месца, куды пастаянна хочацца вярнуцца, бо гэта — наша малая радзіма. Так, вёска Бракава сёння можа стаць мастацкай пляцоўкай для маладых талентаў Слонімшчыны. Прыязджайце ў Бракава і Дзеравянчыцы, пабывайце на зямлі нашага славутага роду Ордаў, аддаўшы даніну павагі Богу і гісторыі. Няхай кожны з нас знойдзе патрэбныя словы падзякі Вікторыі Віктараўне Ашурок і ўнясе свой пасільны ўнёсак у добраўпарадкаванне капліцы і тэрыторыі былога маёнтку Ордаў. Наведайце гэта цудоўнае месца 7 верасня на свята Нараджэння Маці Божай, бо, напэўна, Маці Божая мае даць нешта важнае для кожнага з нас.

Маё даследаванне гісторыі славутага роду Ордаў працягваецца, а пакуль я хачу сказаць нашчадкам роду Наполеона Орды, усім беларусам і еўрапейскім турыстам: "Bienvenue à Derevjanychitsy, ці запрашаем вас у Дзеравянчыцы!".

●Святлана Брайчук

*Пераклад лістоў з англійскай мовы ў перапісцы з сям'ёй Х'юберта і Мары Клер Дэнармандзі ажыццяўляўся Ганнай Бруцкай.*



Вітольд Орда, сын Напалеона Орды

Выкарыстаныя крыніцы

*Bisping, Adam Benedykt / Moje wspomnienia w Massalanach spisane Pamiętniki Jana Ordynata Bispinga 1842 — 1892. — Wydawnictwo Uniwersytetu Jana Kochanowskiego: Kielce, 2017, Kraków 2017. С. 35, 45.*

*Военная энциклопедия / В. Ф. Новицкий и др. — СПб.: т-во И. В. Сытина, 1911 — 1915. Том 17. С. 142.*

*Geneanet — Рэжым доступу: http:// en.geneanet.org — Дата доступу: 18.01.2019.*

*Жилевич, О.Ф. Документы на французком языке Наполеона Орды и его родственников в архиве семьи Денорманди / О. Ф. Жилевич // Вестник Полоцкого*

государственного университета. Серия А. Гуманитарные науки. — 2017.

Козлов В. Л. Малоизвестные документы из жизни Наполеона Орды. — Национальный исторический архив Беларуси [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://niab.by — Дата доступу: 08.10.2018.

Metryki Wołyń / XIX — wieczne metryki z Wołynia. — Рэжым доступу:http://http://wolyn-metryki.pl — Дата доступу: 01.02.2019.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна (далей — НГАБ г. Гродна). Фонд 1. Воп. 1. Спр. 1135.

НГАБ г. Гродна. Фонд 24. Воп. 3. Спр. 363.

НГАБ г. Гродна. Фонд 96. Воп. 1. Спр. 342.

Орда А. П. Наши родные богатыри, саперы в Севастополе: (приложение к солдатской беседе) / рассказ очевидца А. Орды. — С.-Петербург: В типографии Иосафата Огризко, 1863. [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: https://www.prlib.ru/item/351140 — Дата доступу: 03.02.2019.

Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Слонімскага раёна. — Мн.: БЕЛТА, 2004. С. 109, 121, 715.

Колосов Л. Почта на Пинщине // Белпочта. — Рэжым доступу: http://www.belpost.by — Дата доступу: 10.01.2019.

Римско-католическая церковь в Беларуси (вт. пол. XIX — нач. XX вв.). Исторический очерк: монография / А.И. Ганчар. — Гродно: ГГАУ, 2010 . — С. 337-338.

Русская старина. — 1874. — Том XI. — С-Пб.: Типография В.С. Балашева, 1874. С. 467.

Талерчык А. Парэчча: гіст.-краязн. нарыс. — Гродна: Ратуша, 2002. 160 с.

Jurkowski, Roman. Jak ludność katolicka diecezji wileńskiej witała swego biskupa w 1905 i 1906 roku / Studia Teologiczne. — Białystok, Drohiczyn, Łomża. — 29 (2011). C. 423.


MAIRIE DE ... ARRONDISSEMENT DE ...
Du ... an mil huit cent quatre-vingt six, à ... heures ...
ACTE DE DÉCÈS de ...
décédé ... le ...
à ... heures ... profession de ... âgé de ... né à ...
département d ... domicilié à ...
fils de ... Orda
et de ... Orda
Sur la déclaration à moi faite par ...
âgé de ... ans, profession de ...
domicilié à ... qui a dit être ... du défunt,
et par ... âgé de
... ans, profession de ...
domicilié à ... qui a dit être ... du défunt.
CONSTATÉ, suivant la loi, par moi, ...
remplissant les fonctions d'Officier de l'État Civil, après m'être assuré du décès,
et lecture du présent acte a été donnée aux déclarants qui ont ...

Копія пасведчання аб смерці Леанціны Камілы Браніславы Орда з сямейнага архіву Х'юберта і Марыі Клер Дэнармандзі, як і наступныя дакументы


S. † P.

Edmund Orda

po długich i ciężkich cierpieniach Opatrzony Św. Sakramentami
zmarł w Rakowie dnia 19 Stycznia 1907 r. przeżywszy lat 78.
Pogrzeb na miejscowym cmentarzu w Kamieniu-Koszyrskim
odbył się dn. 24 Stycznia r. b., o czem pozostała żona, córki,
zięciowie, wnuki i prawnuki zawiadamiają krewnych, przyjaciół
i znajomych prosząc o westchnienie do Boga.

Копія пасведчання аб смерці Эдманда Орды, бацькі Леанціны Камілы Браніславы Орда


S. † P.

z ORDÓW

Marja Mikulska

Opatrzona ŚŚ. Sakramentami zmarła 29 listopada r. b. w wieku 78 lat.
Pochowana w grobach rodzinnych w maj. Stare Żyrowice pow. Słonimskiego.
O czem zawiadamiają stroskani
Córki, zięciowie, wnuczki i wnukowie

Копія нататкі аб смерці Марыі Мікульскай /Орды/

# Пра слонімскі гандаль у 1920-я гады

*Працяг, пачатак у № 5, 2019 г.*

“Lejba Ajzensztadt”. Перапрацоўка лесу. Год заснавання — 1925. Альбярцін. Уласнік — Лейба Айзенштадт. Жыў у Слоніме па Уланскай вуліцы, 4.

“Dawid Batchan”. Гандаль прадуктамі харчавання і тытунёвымі вырабамі. Год заснавання — 1926. Вёска Трыбушкі. Уласнік — Давід Батхан. Жыў там жа.

“Mowsza Bernikier”. Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1923. Жыровічы. Уласнік — Моўша Бернікер. Жыў там жа.

“Marja-Leontyna Hutten-Czapska”. Бровар. Год заснавання — 1905. Маёнтак Сынковічы. Уласніца — Мар’я-Леантына Гутэн-Чапская. Жыла там жа.

“Kamilla Jorsz”. Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1925. Слонім, вуліца Мінская, 50. Уласніца — Каміла Ёрш. Жыла ў Слоніме па вуліцы Доўгай, 2.

“Sara Kwiat”. Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1924. Слонім, вуліца Віленская, 17. Уласніца — Сара Квят. Жыла там жа.

“Pesza Lewin”. Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1924. Слонім, вуліца Ружанская, 33. Уласніца — Пеша Левін. Жыла там жа.



“Franciszka Leżdziej”. Кавярня-кандытарская. Год заснавання — 1925. Слонім, вуліца Мінская, 9. Уласніца — Францішка Леждзей. Жыла там жа.

“Chana Lion”. Гандаль мануфактурнымі таварамі. Год заснавання — 1925. Слонім, вуліца Сянкевіча, Гандлёвыя рады, № 131. Уласніца — Хана Ліён. Жыла па вуліцы Сянкевіча, 7.

“Nina Mukosiejówna”. Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1925. Азярніца. Уласніца — Ніна Мукасей. Жыла там жа.

“Perec Pomeranc”. Гандаль паперай. Год заснавання — 1924. Слонім, вуліца Ружанская, 27. Уласнік — Перэц Памеранц. Жыў там жа.

“Wolf Rozenberg”. Рэстаран. Год заснавання — 1924. Азярніца. Уласнік — Вольф Розенберг. Жыў там жа.

“Izrael Rubin”. Кавярня і піўная. Год заснавання — 1918. Слонім, Гандлёвая плошча, 5. Уласнік — Ізраэль Рубін. Жыў па вуліцы Бернардынскай, 34.

“Chaim-Josel Samsonowicz”. Гандаль коньмі. Год заснавання — 1921. Слонім, вуліца 3 Мая, 2. Уласнік — Хаім-Ёсель Самсановіч. Жыў там жа.

“Chana Skudzicka”. Кавярня-кандытарская. Год заснавання — 1925. Слонім, Гандлёвая плошча, будка № 43. Уласніца — Хана Скудзіцкая. Жыла па Мінскай вуліцы, 43.

“D. Cypersztejn i S. Wejcel”. Гандаль прадуктамі харчавання і “каланіяльнымі таварамі”. Год заснавання — 1923. Слонім, вуліца Школьны Двор, 3. Уласнікі — Давід Цыпэрштэйн і Самуэль Вейцэль. Першы жыў па вуліцы Андрэеўскай, 14, другі — па вуліцы Сянкевіча, 21.

Падрыхтаваў ●Сяргей Ёрш



# Слонім у 1946 годзе

*Працяг, пачатак на ст. 1*

*Руіны каля галоўнай сінагогі па Андрэеўскай вуліцы. Знізу — сінагога, пабудаваная ў пачатку XX ст.*

# Слонім у 1946 годзе



*У Спаса-Праабражэнскім саборы*

# Слонім у 1946 годзе



*Спаса-Праабражэнскі сабор*

*Брама былога бернардынскага кляштара, пабудаваная ў XVIII ст. На ёй — шыльда Слонімскай рameснай вучэльні*

*Уязная брама перад касцёлам св. Андрэя*



*Скульптура апостала Пятра ў нішы сцяны касцёла св. Андрэя*



*Драўляная скульптура святога Дамініка ў прыдарожнай капліцы*

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Жыровіцкі манастыр, 1946 год

*З фондаў Беларускага дзяржаўнага архіву кінафотафонадакументаў*

СЛОНІМЦЫ Ў СВЕЦЕ

# Міхаіл Гінзбург

Міхаіл (Маісей) Лазаравіч Гінзбург нарадзіўся ў Слоніме 4 сакавіка 1900 года. Яго вялікая сям'я, відаць, была заможная. У сакавіку 1919-га, калі польскія войскі выбілі з нашага горада бальшавікоў, Гінзбургі выехалі ў Варшаву. Міхаіл з братамі не засталіся ў Польшчы — паехалі ў Германію. Там Гінзбург скончыў радыётэхнічны інстытут. З нейкай прычыны ён вырашыў выехаць у савецкую Расію (са сваякамі ў замежжы падтрымліваў сувязь да смерці). Жыў у Маскве, стварыў сям'ю. Падчас Другой сусветнай вайны служыў перакладчыкам у савецкай арміі, дайшоў да Берліна. У пасляваенны час працаваў у навуковым аддзеле Дзяржаўнай публічнай навукова-тэхнічнай бібліятэкі. Міхаіл Гінзбург — аўтар трох руска-нямецкіх слоўнікаў па радыётэхніцы.

Слонімца не стала 13 снежня 1962 года, калі ў яго здарыўся інфаркт у маскоўскім метро. Міхаіла Гінзбурга пахавалі ў калумбарыі Данскога манастыра.

●Генадзь Гурскі



*Фота: geni.com*

# Слонімскія бібліятэкі, знішчаныя падчас вайны

У 1939 годзе ў Слоніме пачала арганізоўвацца цэнтральная бібліятэка і бібліятэка пры парткабінеце, дзе любы жадаючы мог бясплатна ўзяць і пачытаць кнігу. У чэрвені 1940-га Слонімская цэнтральная бібліятэка налічвала больш за 10 тысяч кніг. У ёй знаходзіліліся кнігі на 16 мовах — на беларускай, рускай, іўрыце, польскай і іншых. Бібліятэка мела 2400 чытачоў, сярод якіх было шмат школьнікаў.

Найвялікшай праблемай для цэнтральнай бібліятэкі з'яўлялася адсутнасць памяшкання. Многія кнігі ляжалі, звaленыя ў кучу. У бібліятэцы стаялі вялікія чэргі па кнігі. Газеты, якія выпісваліся бібліятэкай, ляжалі непрачытаныя, бо адсутнічала чытальная зала.

Лепш выглядала бібліятэка пры парткабінеце. У ёй налічвалася больш за 2 тысячы кніг. Былі там творы Карла Маркса, Леніна, Сталіна, 600 асобнікаў "Кароткага курса гісторыі ВКП (б), кнігі Астроўскага, Горкага, Талстога, шмат сельскагаспадарчай літаратуры. У парткабінеце знаходзілася і вялікая чытальная зала, на сталах ляжалі свежыя газеты і часопісы, быў устаноўлены радыёпрыёмнік, на сценах віселі плакаты, лозунгі і дыяграмы.

У 1940 годзе бібліятэку парткабінета наведвала больш за 100 чытачоў. Напрыклад, работнік Слонімскага банку Мельнік за месяц прачытаў больш за 20 кніг.



Акт.

30 Сентября 1944 г. гор. Слоним.

Мы нижеподписавшиеся члены комиссии, в составе представителей Горсовета инспектора народного образования Руденко Димитрия Григорьевича, электромонтера Жилинского Николая Александровича и бухгалтера конторы связи Люля Станислава Михайловича с участием экспертов тов. Новик Сергей Михайлович, директор Слонимского историко-краеведческого музея и тов. Стабровского Иосиф Иосифович старший научный работник и основатель этого музея составили настоящий акт об ущербе причиненном немецко-фашистскими захватчиками и их сообщниками Слонимской районной библиотеке, находящейся по улице Первомайской № 3.

| № п/п | Наименование имущества | Единица измерения | [illegible] | Стоимость в рублях |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Здание библиотеки сожжено до тла | | | 10000 |
| 2 | Ламп висячих с фарф. абажурами | 1 | | 20 |
| 3 | Ламп настольных никелевых с фарф. абажурами | 2 | | 300 |
| 4 | Столов письменных | | | 300 |
| 5 | Стульев венских | 10 | | 250 |
| 6 | Стульев простых | 10 | | 150 |

У ліпені 1940 года была арганізавана і Слонімская раённая бібліятэка. Бібліятэкі знаходзіліся у цэнтры Слоніма на Першамайскай вуліцы, 3. Падчас Другой сусветнай вайны фонд бібліятэк у Слоніме быў разрабаваны.

У Слонімскай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа захоўваюцца два акты ад 30 верасня 1944 года, складзеныя заснавальнікам Слонімскага краязнаўчага музея Язэпам Стаброўскім і дырэктарам музея Сяргеем Новікам-Пеюном. Акт падпісалі члены камісіі ў складзе супрацоўнікаў гарадскога савета — інспектара народнай адукацыі Рудэнкі Дзмітрыя Рыгоравіча, электраманцёра Жылінскага Мікалая Аляксандравіча і бухгалтара канторы сувязі Люля Станіслава Міхайлавіча. Новік і Стаброўскі былі далучаны ў якасці экспертаў. Былі складзены акты пра шкоду, якая была нанесена нямецка-фашысцкімі захопнікамі і іх саўдзельнікамі Слонімскай цэнтральнай бібліятэцы і яе фондам. Гэта каштоўны гістарычны дакумент.

Будынак бібліятэкі поўнасцю быў спалены. На той час ён каштаваў 10000 рублёў.

Лямпы вісячыя з фарфоравымі абажурамі — 1 штука, кошт 20 рублёў.

Лямпы настольныя нікелевыя з фарфорамі абажурамі — 2 штукі, кошт 300 рублёў.

Пісьменныя сталы — 2 штукі, кошт 300 рублёў.

Крэслы венскія — 10 штук, кошт 250 рублёў

Крэслы простыя — 10 штук, кошт 150 рублёў.

Сталы для чытальні — 1 штука, кошт 100 рублёў.

Сталоў-шафаў — 1 штука, кошт 200 рублёў.

Шафаў рабочых — 2 штукі, кошт 700 рублёў.

Шафаў кніжных — 2 штукі, кошт 200 рублёў.

Лесвіцы бібліятэкі — 2 штукі, кошт 240 рублёў

Адна шафа-каталог з ясеню, паліраваная з нікелевымі

ручкамі, кошт 500 рублёў.

Стэлажы на 12 тысяч кніг коштам 1000 рублёў.

Пішучая машынка "Renington" (малая) — 1 штука, кошт 2000 рублёў

Шафа-выстава — 1 штука, кошт 400 рублёў.

Табліца-выстава — 1 штука, кошт 250 рублёў.

Партрэты кіраўнікоў у рамках (мастацкія працы) — 11 штук, кошт 2387 рублёў.

Партрэты класікаў літаратуры (рускай, беларускай, украінскай, польскай) — 12 штук, кошт 600 рублёў.

Фіранкі цюлевыя з карнізамі — 10 штук, кошт 2500 рублёў.

Прыборы для пісьма — 13 штук, кошт 1560 рублёў.

Картатэка — 2 штукі, кошт 400 рублёў.

Лічыльнік — 1 штука, кошт 27,47 рублёў.

Мапы геаграфічныя і гістарычныя — 40 штук, кошт 1000 рублёў.

Вялікі глобус — 2 штукі, кошт 700 рублёў.

Карціны з рускай гісторыі ў рамках — 11 штук, кошт 440 рублёў.

Кнігі на рускай, беларускай, украінскай, польскай, яўрэйскай, французскай, нямецкай, англійскай, швецкай, італьянскай, нарвежскай, іспанскай, венгерскай, балгарскай, славацкай, румынскай, латышскай, літоўскай і іншых мовах. У тым ліку — рэдкіх і старых кніг, а таксама рукапісных у скураных пераплётах на пергаменце з былых палацаў графаў Гутэн-Чапскага, Слізеняў і Пуслоўскіх коштам 75000 рублёў.


Язэп Стаброўскі

А вось якая шкода была нанесена вайной Слонімскай раённая бібліятэцы.

Будынак бібліятэкі поўнасцю быў спалены. Будынак па тым часе каштаваў 20000 рублёў.

Лямпы вісячыя з фарфоравымі абажурамі — 20 штук, кошт 400 рублёў.

Лямпы настольныя нікелевыя з фарфоравымі абажурамі — 3 штукі, кошт 450 рублёў.

Пісьменныя сталы — 4 штукі, кошт 1200 рублёў.

Крэслы венскія — 25 штук, кошт 625 рублёў

Крэслы простыя — 60 штук, кошт 900 рублёў.

Сталы для чытальні — 10 штук, кошт 1000 рублёў.

Сталоў-шафаў — 3 штукі, кошт 600 рублёў.

Шафаў рабочых — 7 штук, кошт 700 рублёў.

Шафаў кніжных — 8 штук, кошт 3200 рублёў.

Лесвіцы бібліятэкі — 6 штук, кошт 720 рублёў.

Шафы-каталогі з ясеню, паліраваныя з нікелевымі ручкамі — 2 штукі, кошт 1000 рублёў.

Стэлажы на 75 тысяч кніг коштам 5000 рублёў.

Пішучая машынка "Underwold" — 1 штука, кошт 3400 рублёў

Шафа-выстава — 1 штука, кошт 400 рублёў.

Табліца-выстава — 1 штука, кошт 250 рублёў.


Сяргей Новік-Пяюн

Партрэты кіраўнікоў у рамках (мастацкія працы) — 11 штук, кошт 2387 рублёў

Партрэты класікаў літаратуры (рускай, беларускай, украінскай , польскай) — 12 штук, кошт 600 рублёў.

Фіранкі цюлевыя з карнізамі — 2 штукі, кошт 500 рублёў.

Прыборы для пісьма — 2 штукі, кошт 240 рублёў.

Картатэка — 1 штука, кошт 200 рублёў.

Лічыльнік — 1 штука, кошт 27,47 рублёў.

Мапы геаграфічныя і гістарычныя — 18 штук, кошт 450 рублёў.

Вялікі глобус — коштам 350 рублёў.

Карціны з рускай гісторыі ў рамках — 11 штук, кошт 440 рублёў.

Кнігі на рускай, беларускай, украінскай, польскай, яўрэйскай, французскай і нямецкай мовах коштам 12000 рублёў.

Пад актамі стаяць подпісы Язэпа Стаброўскага і Сяргея Новіка-Пеюна.

●Сяргей Чыгрын

# Па старонках нямецкай ваеннай газеты



*Татарская вуліца ў Слоніме. З фондаў БДАКФФД*

*Працяг, пачатак у № 5, 2019 г.*

У трэцім нумары газеты “Kriegszeitung von Baranowitschi” (“Ваенная газета ў Баранавічах”) ад 10 студзеня 1917 года была апублікаваная зацемка пра слонімскіх татараў.

“Слонім. У паўночнай частцы горада размясцілася маленькая старажытная абшчына — гэта татары. На фоне шэрай аднастайнасці дамоў толькі мячэць вылучаецца сваімі зялёнымі вежамі. Служба ў ёй праходзіць па пятніцах. Часам сюды заходзяць нямецкія і аўстрыйскія салдаты, якія дыслакуюцца ў горадзе. Тут, пад знакам паўмесяца, яны знаёмяцца з разнастайнасцю і шматколернасцю народнага “рускага жыцця”, ім адкрываецца новы невядомы свет…

У мячэці на дыванках для малітвы сядзяць людзі без абутку. Мула стаіць на верхняй прыступцы лесвіцы, пафарбаванай чорнай фарбай. У яго на галаве чорная феска з белай палоскай. Ён агучвае сваё казанне. Жанчыны сядзяць у іншым памяшканні, аддзеленым сценкай. Часам мула пераходзіць з прамовы на распеўнае маўленне.

Нямецкія салдаты не разумеюць, пра што гаворыцца ў казанні. Мула ведае нямецкую мову і дае тлумачэнні. Прысутнасць салдат яму не замінае. Толькі, калі хтосьці заходзіць ціха і сціпла ў мячэць з фуражкай у руцэ, мула тлумачыць, што ў мусульманскай мячэці шапка павінна быць на галаве. Перад уваходам у мячэць цэлая выстава з чаравікаў і ботаў.

Татарскае жыццё тут падобнае з жыццём польскіх і рускіх* сялян. Адзеннем яны таксама амаль не адрозніваюцца ад іх. Але ў дамах у іх адсутнічае гарэм…”.

Падрыхтаваў
●Ігар Падгарадзецкі

**Так немец называе беларускіх сялян, як католікаў, так і праваслаўных.*

“Слонімскі край” — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару
Сяргей Чыгрын

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на “СК” пры передруку абавязковая.